

# Магілеўскі ВЫБАР

№ 7 (33)
Кастрычнік
2014 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна


# Чаму так не шчасціць Краспапольшчыне?

У сярэдзіне верасня 2014 года мне ў чарговы раз прыйшлося пабываць у Краснапольскім раёне. Кожны раз, наведваючы Краснапольшчыну, я зноўку і зноўку пераконваюся, што тут жывуць вельмі ветлівыя і добразычлівыя людзі. Вось і на гэты раз, ці калі я заходзіў на тэрыторыю машыннага двара, фермы ААТ "Краснапольскі" у гарадскім пасёлку або ў вёсках, ці ў будынкі Краснапольскага райвыканкама і раённага Упраўлення па сельскай гаспадарцы, амаль усюды я чуў ад людзей пытанні, накшталт "Што вам падказаць?", "Чым вам дапамагчы?".

…Нягледзячы на Чарнобыльскую трагедыю 1986 года, калі з Краснапольшчыны ў розныя рэгіёны былога Савецкага Саюза з'ехалі тысячы людзей, калі ў раёне былі зачынены дзясяткі прадпрыемстваў, тыя, хто застаўся, змаглі наладзіць жыццё ў сваім родным краі.

І ў дадзеным выпадку рэспубліканскім, абласным, раённым уладам для стварэння прыстойнага ўзроўню жыцця ў дадзеным рэгіёне толькі і заставалася крыху падтрымаць людзей, дапамагчы ім у наладжванні вытворчасці і не перашкаджаць там, дзе вытворчыя працэсы былі адладжаны на належным узроўні.

Але ж, як гэта часта бывае, у беларукіх чыноўнікаў проста рукі чэшуцца,каб "паэксперыментаваць" і такім чынам паказаць свае "здольнасці" да рэфармавання розных галін эканомікі краіны. На тэмах рэфармавання некаторыя прадстаўнікі чынавенства з вышэйшых эшалонаў улады нават абаранілі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі.




Так было і ў сельскай гаспадарцы краіны, калі пад выглядам рэформаў у сярэдзіне 2000-х гадоў былі распачаты працэсы зліцця ў адну па некалькі гаспадарак розных форм уласнасці. Сярод рэгіёнаў нават было распачата негалоснае спаборніцтва - хто ў дадзенай "рэформе" атрымае найбольшыя дасягненні.

Наперадзе ўсіх апынулася Магілёўшчына. Тут пайшлі па прынцыпу: "Аб'ядноўваць, дык аб'ядноўваць". І, напрыклад, у Краснапольскім раёне пад выглядам рэформаў у 2008 годзе злілі ў адну кучу ўсе існуючыя на той момант сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, аб'яднаўшы іх у адну гаспадарку – Унітарнае Камунальнае Сельскагаспадарчае Прадпрыемства "Краснапольскі".

Як праходзілі працэсы аб'яднання, як ламаліся межы гаспадарак і лёсы людзей - гэта асобная гісторыя.

Але ўжо ў першы год існавання УКСП "Краснапольскі" было бачна, што эксперымент правальваецца. Што абяцанні тагачаснага старшыні райвыканкама Аляксандра Ветошкіна аб павялічэнні заробкаў сялян, аб росце ўраджаю,прывесаў і надояў малака, аб рэфармаванні сістэмы мясцовай улады (ска- ☞

# ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

**В Могилеве по итогам девяти месяцев текущего года рождаемость увеличилась на 6,7% по сравнению с аналогичным периодом 2013-го и превысила смертность на 646 человек. За январь-сентябрь в Могилеве на свет появились 3779 малышей. Впервые стали мамами 1840 женщин. На второго ребенка решилась 1481 мама, третьего - 288, четвертого и более - 68. Причем в двух семьях родился 7-й и 8-й ребенок соответственно.**

**В 2016 году Россия создаст в Бобруйске авиабазу, где разместит истребители "Су-27", сообщил главком ВВС РФ генерал-полковник Виктор Бондарев в ходе трехдневной поездки по строящимся объектам Военно-воздушных сил. По его словам, российские самолеты разместят на военном аэродроме, на реконструкцию которого уже подготовлено техническое задание.**

**За 9 месяцев текущего года Главным статистическим управлением Могилевской области проведено 186 проверок первичных отчетных данных. Искажения отчетности обнаружены в 119 случаях (64%). Наиболее часто они выявляются при проверке показателей по статистике сельского хозяйства, труда, инвестиций и строительства. В результате проведенных проверок, составлены и направлены в суд протоколы об административном правонарушении на 87 должностных лиц. Постановлениями суда приняты решения о наложении административного взыскания в виде штрафа на общую сумму 192,9 млрд. рублей. Возбуждено 5 уголовных дел. По ряду проверок материалы остаются на рассмотрении.**

*Подготовил*
***Антон ДУБОЛОМОВ.***

рачэнне апарату Упраўлення сельскай гаспадаркай раёна) не спраўджваюцца.

У першы год эксперыменту толькі з-за пагаршэння якасці здадзенага на малаказавод малака гаспадарка згубіла фінансавыя сродкі, перавысіўшыя гадавы фонд заработнай платы.

У аб'яднанай гаспадарцы пачалі зніжацца паказчыкі вытворчасці. Напрыклад, надоі малака на адну карову ў раёне знізіліся да 2,3 тыс. літраў (і тое з прыпіскамі).




І, як след, сяло пачалі масава пакідаць людзі. Падобнага эксперымента над сабой не вытрымалі нават тыя, хто застаўся пасля Чарнобыльскай трагедыі. У сярэднім, з аб'яднанай гаспадаркі звальняюцца каля 100 чалавек у год. Да аб'яднання, толькі ў адным сельскагаспадарчым вытворчым кааператыве "Краснапольскі" налічвалася каля 800 працаўнікоў. Зараз жа ў аб'яднанай гаспадарцы ААТ "Краснапольскі" (гаспадарка пераіменавана ў адкрытае акцыянернае таварыства) працуе ўсяго толькі 450 чалавек.

Не далі належнага эфекту і мільярдныя фінансавыя ўліванні ў сельскую гаспадарку раёна з бюджэту.

Краснапольскі эксперымент цягнецца ўжо шэсць год. Мінскія, магілёўскія, краснапольскія чыноўнікі разумеючы, што з аб'яднаннем сельгаспрадпрыемстваў раёна ў адно сатварылі, мякка кажучы, дурасць, не прымаюць ніякіх мераў па ліквідацыі няўдалага эксперыменту.

Як мне распавялі некаторыя працаўнікі "Краснапольскага", у іх былі вялікія спадзяванні, што ў сітуацыю ўмяшаецца вышэйшае кіраўніцтва краіны пасля публікацый аб іх гаротным стане ў газеце "Советская Белоруссия" у 2012 і 2013 годзе. Але і тут справа з мёртвай кропкі не зрушылася.

Каб зразумець, у якім стане знаходзіцца ААТ "Краснапольскі", дастаткова зайсці ў цэнтральны офіс гаспадаркі, што знаходзіцца на вул. Антонава,16. Прама на ўваходзе для любога наведвальніка існуе пагроза праваліцца ў дзірку ў падлозе калідора.

А што сабой уяўляюць вытворчыя аб'екты, можна пабачыць тут жа недалёка ад офіса, у тым месцы, дзе размешчаны машынны двор і жывёлагадоўчая ферма, на якой гной ад буйной рагатай жывёлы выдаляўся ўручную праз ваконныя праёмы прама на зямлю пад сцены будынка. А сам будынак выглядае проста жахліва.

Не лепшым чынам выглядаюць вытворчыя аб'екты былых самастойных гаспадарак. На жаль, шматлікія машынныя двары, зернесушыльныя комплексы, фермы, іншыя аб'екты з-за "непатрэбнасці" даўно не эксплуатуюцца і практычна разрабаваны. А тое, што яшчэ "патрэбна" кіраўніцтву раёна і гаспадаркі, эксплуатуецца абыякава. Як, напрыклад, комплекс у вёсцы Леніна, дзе даўно адсутнічаў бульдозер для выдалення гною, і буйная рагатая жывёла, як выказаўся адзін з жывёлаводаў, "па калена ў гаўне".

Як адбілася недарэчнасць краснапольскага эксперыменту на стане вёскі можна яскрава назіраць на прыкладзе вёскі Горы, калісьці цэнтральнай сядзібы паспяховай гаспадаркі, адкуль зараз імкліва збягаюць людзі. Праехаўшы па цэнтральнай вуліцы вёскі можна заўважыць цэлы шэраг пустуючых,калісьці добротных, дамоў, дзе раней жылі калгаснікі. Да праводзімых сёлета ў гэтай вёсцы раённых "Дажынак" ваконныя праёмы пустуючых дамоў зашылі шчытамі, падфарбавалі, чым надалі выгляд сапраўднай "пацёмкінскай вёскі". Як выказаўся адзін з былых галоўных спецыялістаў гаспадаркі, зараз тут застаюцца жыць і працаваць толькі тыя, каму дзявацца няма куды, або трэба дапрацаваць год-два да пенсіі. Бо пенсія ў перспектыве чакаецца большая, чым аклад спецыяліста з вышэйшай адукацыяй у памеры 1,6 мільёна рублёў...

За гады эксперымента паказчыкі Краснапольскага раёну па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі знізіліся ў 1,3-1,5 разы. І гэта пры тым, што ў пагоні за паказчыкамі кіраўніцтва раёна і прадпрыемства нярэдка прыбягаюць да расպрацоўкі і засявання збожжавымі культурамі земляў, выведзеных з севазварота з-за забруджвання радыёнуклідамі. Чыноўнікі не звяртаюць увагу на тое, што атрыманая на забруджаных землях прадукцыя нясе небяспеку ўсім грамадзянам нашай краіны.

Пры сустрэчах з вуснаў краснапольцаў гучалі адны і тыя ж рытарычныя пытанні: "Што надалей будзе з Краснапольскім раёнам, што надалей будзе з намі? Колькі яшчэ будзе працягвацца гэты эксперымент над людзьмі?"

Аб'ядналі прадпрыемствы ў адзін вялікі "калгас", зараз думаюць аб'яднаць раёны Магілёўскай вобласці…

Пакуль што людзі на працягу шасці год не змаглі атрымаць адказу на гэтыя свае пытанні ні ад чыноўнікаў рознага рангу, ні ад праўладных сродкаў масавай інфармацыі .

Ім толькі і застаецца – шукаць "шчасця" ў іншым месцы.



*Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор КАСТУСЁЎ.*

# Наказание без преступления

***Судья суда Ленинского района Могилева Елена Волкова 8 октября оштрафовала журналиста-фрилансера на 40 базовых величин (6 млн. рублей).***

16 сентября семь сотрудников милиции во главе с майором Владимиром Пугачевым провели в квартире Александра Буракова обыск. Они изъяли два ноутбука, принадлежащих его жене. Обыск был проведен также в квартире родителей Буракова, где милиционеры изъяли два системных блока компьютеров. В постановлении на обыск было указано, что Бураков сотрудничал с сайтом радио «Немецкая волна» без аккредитации. В конце сентября дело Буракова было передано в суд Ленинского района Могилева. Милиция обвинила журналиста в том, что его статья «Тропой контрабандиста: работают ли российские санкции в приграничье» была опубликована в глобальной сети интернет на сайте «Немецкой волны», чем нарушена часть вторая статьи 22.9 КоАП (незаконное изготовление продукции СМИ).

Выступая на суде, Бураков подчеркивал, что статья, размещенная на сайте «Немецкой волны», - результат не только его труда, поскольку, к примеру, ее заголовок не соответствует данному им первоначально. *«Этот текст был разослан в разные редакции, которые решают, брать ли их и если брать, то в каком виде публиковать. Именно этим и живут фрилансеры»*, -- подчеркивал журналист.

Он также обратил внимание, что в документы об обыске оформлены ненадлежащим образом, что вызывает сомнения их подлинности и требует по меньшей мере дополнительной проверки. Однако судья Волкова сразу заявила, что признает документы достоверными.

Адвокат Буракова аргументированно указывала, что статья КоАП, в нарушении которой обвиняется ее подзащитный, не может быть применена к физическому лицу, а только к юридическому. По ее словам, причастны к изготовлению продукции СМИ не только журналисты, но и другие люди, благодаря труду которых материал публикуется на сайте того или иного издания, и, по логике обвинения, они тоже должны быть привлечены к ответственности.

Более того, в протоколах не указано, на основании чего был сделан вывод о том, что сайт «Немецкой волны» является иностранным СМИ, с которым Бураков имеет трудовые отношения. *«Ни разу никем не было зафиксировано, что Бураков действовал без аккредитации, которую предоставляет МИД Беларуси. Прокуратура также не выносила в адрес Буракова предупреждения о недопустимости сотрудничества с иностранным СМИ без аккредитации»*, - отметила адвокат.

Защитница указывала: свидетели со стороны милиции не смогли подтвердить, что видели, как Бураков изготовил исследуемую статью в интернете, не ответила на вопросы и экспертиза.

Несмотря на доводы защиты, судья Волкова признала Буракова виновным в правонарушении и приговорила к штрафу.

*«Террор вошел в семьи белорусских журналистов. Это была акция устрашения»*, - заявил Бураков.

Журналист заявил, что будет обжаловать сегодняшнее решение вплоть до Комитета ООН по правам человека.

Стоит отметить, что 29 октября 2013 года судья Елена Волкова признала листовки средством массовой информации, на распространение которых должен быть заключен договор. Средством массовой информации, по мнению судьи, являются и подписные листы с подписями граждан.

*http://charter97.org/*

# Адказнасць TV

***Лідэры магілёўскіх арганізацый незалежных прафсаюзаў заявілі пра намер падаць у суд за экстрэмізм на тэлеканалы «РТР-Беларусь» і «НТВ-Беларусь».***

**Нагадаем, у ліпені магілёўскія актывісты незалежных прафсаюзаў і грамадскага аб'яднання "Фонд імя Льва Сапегі» звярнуліся ў Міністэрства сувязі і інфарматызацыі, Белтэлерадыёкампанію і Генеральную пракуратуру з просьбай замяніць расейскія тэлеканалы РТР і НТВ на украінскі і казахстанскі, якія таксама вяшчаюць на рускай мове. Сваю просьбу яны патлумачылі тым, што, на іх думку, на расейскіх тэлеканалах распаўсюджваецца *«антыўкраінская істэрыя, накіраваная на распальванне міжнацыянальнай варожасці і сепаратызму».***

**У атрыманым актывістамі адказе, падпісаным намеснікам міністра інфармацыі С.Хільманам, адзначаецца: *«Усе восем тэлепраграм, якія распаўсюджваюцца на тэрыторыі Магілёва ў агульнадаступным лічбавым эфірным пакеце, з'яўляюцца сродкамі масавай інфармацыі, зарэгістраванымі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Інфармацыя пра распаўсюд у дадзеным лічбавым пакеце тэлепраграм, зарэгістраваных на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, не адпавядае рэчаіснасці».***

**Акрамя таго, у лісце ўказана, што толькі суд можа прызнаваць матэрыялы экстрэмісцкімі. *«У выпадку калі рашэннем суда будзе прызнана, што рэдакцыя тэлепраграмы распаўсюджвае экстрэмісцкія матэрыялы, дадзеная рэдакцыя будзе несці адказнасць у адпаведнасці з дзейным закана-даўствам"*, - адзначыў Хільман.**

***«Усе адрасаты праігнаравалі зварот, не разгледзелі яго па сутнасці і пераслалі ў Міністэрства інфармацыі»*, - заявіў адзін з падпісантаў звароту Юрый Новікаў.**

**Новікаў і іншыя падпісанты звароту заявілі пра намер падрыхтаваць судовыя пазовы на тэлеканалы «РТР-Беларусь» і «НТВ-Беларусь».**

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

# Пайшло з малатка

***Фігуранты карупцыйных скандалаў пазбаўляюцца не толькі павагі, пасад і свабоды. Іх несправядліва нажытая маёмасць падлягае канфіскацыі. Па рашэнні судоў нерухомасць, якую згадваюць абавязкова з эпітэтам «элітная», прадаецца з аўкцыёнаў. Як гэта адбываецца?***

Напрыклад, вось двухпавярховы катэдж у прэстыжным раёне Магілёва, непадалёк ад Пячэрскага лесапарку. Будынак выглядае прэзентабельна і арыгінальна, не нейкі там тыпавы праект. Пабудавана з выдумкай: прыбудовы, эркер, дах з мяккай чарапіцы ў некалькі узроўняў. Гэты двухпавярховы дом агульнай плошчай 320 «квадратаў», мяркуючы па аб'яве ў рэкламнай газеце, з паўгода таму быў выстаўлены на продаж. За 250 тысяч долараў. Тут жа апісваліся ўсе перавагі аб'екта: *"6 пакояў, цокальны паверх, электрычнасць, вада, газ. На ўчастку ў 15 сотак - гараж і лазня. Побач лес, возера, гарналыжны трамплін ».*

Магілёўцам катэдж добра знаёмы: ён належаў былому намесніку старшыні гарвыканкама Уладзіміру Цітку. Рашэнне канфіскаваць у яго маёмасць суд прыняў яшчэ ў 2012 годзе, калі за зямельную афёру прысудзіў былога намесніка старшыні да трох гадоў пазбаўлення волі. Нагадаем сутнасць гісторыі. Ціток, які курыраваў працу будаўнічай галіны, задумаў будаўніцтва катэджа. Каб мінімізаваць асабістыя выдаткі, звярнуўся па дапамогу да дырэктара адкрытага акцыянернага таварыства «Прамжылбуд». Дзе і браў без дамоваў і аплаты тэхніку, будматэрыялы, рабочых. На аб'екце тады яшчэ намесніка старшыні гарвыканкама рабочыя «Прамжылбуда» сумленна укалывалі два гады.

Дарэчы, будынак быў аформлены на падстаўную асобу. Лічылі, што ніхто не стане разбірацца, як нажыта дабро, і гэты палац ня засвеціцца. Аднаго не ўлічылі: суд мае права выносіць рашэнні аб канфіскацыі такой маёмасці, калі даказана, што яна набыта (пабудавана) за дзяржаўны кошт.

Ціток адседзеў менш прызначанага тэрміну. Кажуць, выйшаў па амністыі. Але ў гэты дом ужо не вернецца ...


Дом былога намесніка старшыні Магілёўскага гарвыканкама прададзены з аўкцыёну

Маёмасць, па суду падлягае канфіскацыі, - машыны, кватэры, катэджы нячыстых на руку кіраўнікоў - выстаўляюць на аўкцыён. Падрыхтоўкай і правядзеннем таргоў займаецца ў ліку іншага ведамства з мірным назвай - дэпартамент па гуманітарнай дзейнасці, прадстаўніцтва якога ёсць і ў Магілёве. Зрэшты, як высветлілася, ад суда да аўкцыёну - шлях няблізкі. Да прыкладу, катэдж Цітка сышоў з таргоў у мінулым годзе. За колькі, ведае загадчыца сектара аддзела прымусовага выканання Ленінскага раёна Магілёва Святлана Князева:

- Адзін мільярд 81 мільён рублёў.

Зверыўшыся з курсам даляра, падлічвае: 102 тысячы у.е. Ці не задарма? На рынку нерухомасці падобныя дамы каштуюць ад 150 тысяч долараў і вышэй. У рэкламе, нагадаю, і зусім значылася 250 тысяч. Мне растлумачылі: ацэнкай канфіскату займаюцца спецыялісты, ўлічваецца ўсё, пачынаючы ад месца размяшчэння, наяўнасці камунікацый, плошчы, заканчваючы адсоткам гатоўнасці. У гэтага дома жылая плошча - 180 «квадратаў», працэнт гатоўнасці - 80, да таго ж ўсплылі сякія-такія будаўнічыя агрэхі. У цокальным паверсе, напрыклад, стаяла вада ...

Катэдж Яўгена Лебедзева, які 7 гадоў ўзначальваў адміністрацыю Кастрычніцкага раёна Магілёва, мяркуючы па кошце, без агрэхаў. Але вось не без граху апынуўся сам былы кіраўнік. Некалі паважанага чалавека - узнагароды, ўшанаванні, дастатак - таксама падвяла сквапнасць. Скарыстаўся становішчам, браў дарам транспарт, будматэрыялы. За што ў 2010-м і быў прысуджаны да 4-гадовага тэрміну.

Знайшлося нямала жадаючых засяліцца ў яго дом, пабудаваны ў раёне аўтавакзала. За час таргоў кошт на элітную пабудову вырасла на 11 пунктаў. У выніку катэдж жылой плошчай каля 200 «квадратаў» быў прададзены за 1 мільярд 784 мільёнаў.

Ва ўласнасці Лебедзева меўся і другі зямельны ўчастак з будовай, які па суду таксама падлягае канфіскацыі. У лазні, пабудаванай у прэстыжным месцы, на тэрыторыі Пячэрскага лесапарку, цяпер іншыя парацца - яна пайшла амаль за 654 мільёна.

Грахі загадчыка аднаго з аддзяленняў Магілёўскай абласной бальніцы цьмянеюць у параўнанні з апетытамі гэтых чыноўнікаў. Яго асудзілі за хабар. Ні буйнога, ні асабліва буйнога

памеру не было, і доктар, адбыўшы сваё, выйшаў на волю. Але пазбавіўся пазадарожніка і кватэры. Машыну прадалі з аўкцыёну за 120 мільёнаў рублёў, двухпакаёвую кватэру плошчай больш за 50 «квадратаў» у дзевяціпавярховым доме 1998 пабудовы - амаль за 440 мільёнаў. Дадзеныя аб новых гаспадарах апартаментаў, зразумела, не выдаюцца. А вось сродкі, атрыманыя ад аўкцыёнаў, ідуць у рэспубліканскі бюджэт.

Нядаўна наклалі арышт і на маёмасць былога гендырэктара ААТ «Крычаўцэментнашыфер». Ён не грэбаваў браць хабар, абіраць падначаленых. Так што цалкам магчыма, хутка з малатка пойдуць яго магілёўская кватэра і аўтамабіль коштам 45 тысяч долараў. Нажытага «непасільнай працай» ў гендырэктара шмат, агульная сума перавышае 1 мільярд 670 мільёнаў рублёў.

У гэтым годзе суд Асіповіцкага раёна вынес прысуд - 8 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці - і былому дырэктару прадпрыемства «Белшына-Агра», які за кошт казны будаваў дом для мамы. 9 месяцаў яго падначаленыя хадзілі на гэты аб'ект, як на працу. Следства падлічыла: шкоду, нанесеную начальнікам «Белшыне-Агра», - 150 мільёнаў рублёў. Але той не згодны і падаў касацыйную скаргу ў Магілёўскі абласны суд.

Усяго ж, па словах начальніка ўпраўлення Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці генерал-маёра юстыцыі Аляксандра Ракусава, за 8 месяцаў гэтага года ў вобласці распачата 146 карупцыйных спраў. За час расследавання дзяржаве ўжо кампенсавана больш 188 мільёнаў рублёў шкоды. Арыштавана маёмасці на суму больш за 2 мільярды.

Відаць, наперадзе - новыя аўкцыёны, новыя буйныя лоты. Хацелася б, каб падрабязнасці аб распродажы канфіскату былі больш даступнымі і празрыстымі. Няхай усе бачаць, як пад грук аўкцыённага малатка бурацца надзеі хабарнікаў на хуткае, але несправядлівае ўзбагачэнне.

***Падрыхтаваў А.Дубаломаў.***

Паводле "СБ. Беларусь сегодня".

# Приступить к ликвидации

Единственная в стране зарегистрированная региональная правозащитная организация оказалась на грани закрытия по надуманным, как считают правозащитники, причинам.

В конце сентября в Могилевском областном суде состоялось первое заседание с требованием приостановить на три месяца деятельность "Могилевского правозащитного центра" (МПЦ). В иске управления юстиции говорится, что объединение *"не представляло в установленное время документы, необходимые для регистрации изменений юридического адреса".* В связи с этим общественному объединению были вынесены два предупреждения, которые не были обжалованы, выявленные нарушения не исправлены.

— Пошёл вон!
— За что?
— За дверь!
— Да почему?
— По полу!

За этими формулировками, говорит председатель правления МПЦ Борис Бухель, кроется фактически курьез. На данный момент, объясняет он, МПЦ зарегистрирован в помещении, заявленная площадь которого составляет 17 квадратных метров, по крайней мере, это то, что правозащитники указали в документах. Позже сотрудники управления юстиции установили, что реальная площадь помещения по паспорту составляет 17,3 квадратных метра и предписали учредителям организации внести исправления в документы.

Была допущена техническая ошибка, которую легко было бы исправить, говорит Борис Бухель, но дальнейшие события удивили правозащитников еще больше. Хозяин помещения, который сначала согласился приютить неправительственную организацию, после возвращения документов из управления юстиции отказался повторно подписывать дополнение к договору с подкорректированными параметрами офиса.

Директор МПЦ Владимир Кравченко утверждает, что позиция владельца помещения изменилась после того, как он получил "настоятельные рекомендации" свыше, намекая на давление местных властей. *"После визита сотрудников управления юстиции его предупредили, что еще пожарные хотят с ним пообщаться и работники санстанции",* - утверждает Кравченко.

Несмотря на абсурдность ситуации, владелец не хочет вносить изменения в документы, что неудивительно в преддверии президентских выборов, говорит Бухель. Нечто похожее он пережил в 2009 году, когда МПЦ и ряд других НПО были лишены льгот по оплате аренды за год до начала избирательной кампании.

Реальную причину давления на МПЦ правозащитник видит в том, что организация давно и эффективно занимается наблюдением на выборах. *"В Могилеве 153 избирательных участка и мы готовы выставить 153 наблюдателя благодаря нашей регистрации*", - отмечает Бухель. В данный момент учредители организации готовятся к очередному судебному заседанию. Однако на исход дела в свою пользу они не рассчитывают. Если в трехмесячный срок МПЦ не сможет найти новое помещение, то следующий иск будет подан уже о ликвидации этого общественного объединения.

*www.belaruspartisan.org/*

# А так прыгожа пачыналася...




Быў-жыў у Магілёве настаўнік - Яўген Дуплеўскі. Неблага працаваў, зарабляў аўтарытэт. Настаўніка паважалі, ушаноўвалі ўзнагародамі. Нават вось такія бігборды ў Магілёве яму прысвячалі. А потым спадар Дуплеўскі трапіў у крэсла начальніка упраўлення адукацыі Магілёўскага гарвыканкама. І, відаць, закружылася маладая галава ад гэткай вышыні, з’явіліся спакусы. У выніку, байнэт страсануўся вось такім паведамленнем:

*“Могилевский чиновник просит Лукашенко о помиловании. Евгений Дуплевский, подозреваемый в коррупционном преступлении, подал на имя Лукашенко прошение о помиловании.*

*В отношении бывшего начальника управления образования Могилевского горисполкома возбуждено уголовное дело по ч. 2 ст. 210 УК (хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное повторно либо группой лиц по предварительному сговору). Санкция предусматривает до семи лет лишения свободы с конфискацией имущества.*

*Было установлено, что в 2010 - 2013 годах он оформлялся в школу на работу по совместительству учителем факультативных занятий на условиях срочного трудового договора, но при этом занятия не проводил. Ему фиктивно была начислена зарплата на общую сумму около 22 млн. рублей”.*

Як кажуць у народзе, ад турмы ды сумы не заракайся. І прыкра мне тут зрабілася не ад таго, што падман перамог сумленне, а ад таго, якім каштоўнасцям такія настаўнікі могуць навучыць нашых дзетак.

***Мікола ЯЦКОЎ.***

Фотаздымак аўтара.

## АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**За январь – сентябрь 2014 г. по результатам проверок индивидуальных предпринимателей Могилевской области в бюджет доначислено 4 448,3 млн. рублей. В течение первых девяти месяцев текущего года налоговому контролю подвергнуто 1 442 индивидуальных предпринимателя. Нарушения законодательства о налогах и предпринимательстве установлены у 1434 плательщиков, что составляет 99,4 % от числа проверенных.**

**За долги по оплате за коммунальные услуги могилевчанин лишился квартиры. В Центре городских информационных систем сообщили, что не единожды предупреждали молодого человека о необходимости своевременно оплачивать за потребленные газ, свет, воду, но квартиросъемщик игнорировал требования. В итоге долг по «жировке» с 2010 года за предоставленную двухкомнатную социальную квартиру вырос до 5,6 миллионов рублей. Не предпринимал никаких мер молодой человек и после отключения «благ цивилизации». После этого недобросовестного квартиросъемщика пришлось выселить из благоустроенной квартиры и заселить в менее комфортабельное жилье – с общей кухней и душевой на несколько комнат.**

## ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

**Алкогольные напитки на общую сумму Br74 млн. перевозил житель Солигорска в Славгородском районе. Автомобиль «Фольксваген Транспортер» сотрудники ОГАИ задержали 11 октября в деревне Поповка. В салоне транспортного средства стояли коробки из-под водки “Белая берёза", в которых была водка "Царская охота", "Финляндия" и коньяк “Хэннэси”.**

**422 литра алкогольных напитков, не маркированных в установленном порядке акцизными марками, изъяты. Составлен административный протокол. За транспортировку алкогольной продукции без акцизов мужчине предстоит заплатить штраф до 50 базовых величин.**

***Подготовил Антон ДУБОЛОМОВ***

# Местное самоуправление - исторические корни

21 сентября в Кричеве местная городская ассоциация «Гуманитарная инициатива» при поддержке при поддержке Могилёвского регионального движения «За свободу» провела круглый стол, посвящённый 381-летию получения Кричевом Магдебургского права. В нём приняли участие не только местные активисты ассоциации, но и их единомышленники из Климовичского и Чериковского районов. Перед собравшимися с докладом о истории появления и развития Магдебургского права на территории Беларуси и Могилёвской области, его исторического значения для развития демократических основ гражданского общества, в том числе и местного самоуправления на современном этапе нашей жизни, выступил кандидат экономических наук Пётр Мигурский.

В ходе разгоревшейся дискуссии по обсуждению исторической роли Магдебургского права в развитии экономики и социальной сферы Беларуси, участники круглого стола отметили, что в период его действия в городах Могилёвской области бурно развивались ремёсла, открывались приходские школы, строились церкви и синагоги. После насильного раздела Речи Посполитой и захвата белорусских земель российская императрица Екатерина II в начале 1776 года подарила Кричевщину своему фавориту - графу Григорию Потёмкину. Он отменил Магдебургское право и лишил город самоуправления, а мещан сделал крепостными. Такая участь постигла и другие города расположенные на территории современной Беларуси, в которых в тот период действовало Магдебургское право. По мнению участников стола, это послужило одним из важных исторических факторов торможения политического, экономического и социального развития территории Беларуси по сравнению с другими европейскими странами, где Магдебургское право продолжало действовать и развиваться, переходя в современные формы местного самоуправления. Было отмечено, что и во времена царской России, и при существовании СССР, и в современной Беларуси изучению истории Магдебургского права как одной из форм развития общества на демократических основах не проводилось, исходя, прежде всего из политических соображений правящей верхушки.

В последнее время в Беларуси и Кричевском районе в частности, о местном самоуправлении вспоминают только накануне выборов в парламент или местные Советы депутатов. Складывается впечатление, что такого института власти у нас на практике не существует, он только декларируется на бумаге. По этой причине вертикаль исполнительной власти практически полностью игнорирует мнение населения в решении экономических и социальных проблем развития регионов. Кричевский район представляет собой яркий пример такого поведения чиновников во власти. Местные журналисты в своих публикациях уже неоднократно рассказывали о том, какие потери за последние два десятилетия понёс Кричевский район в отрасли промышленности, строительства, автомобильного транспорта, торговли и общественного питания, здравоохранения и образования. Как в результате этого численность его населения уменьшилась почти на 30% к уровню 1990 года. По мнению кандидата наук П. Мигурского, большой глупостью с непредсказуемыми последствиями для экономики и социальной сферы Кричевского района стало создания белорусской цементной компании с административным центром в Костюковичах. Это решение было принято спонтанно, совершенно не просчитано с точки зрения рационального использования местных трудовых ресурсов, социальной инфраструктуры ОАО «Кричевцементношифер». Мнение трудового коллектива предприятия, а тем более населения региона, для которого оно является градообразующим, никто не хотел знать и слушать в руководящих кабинетах Могилёва и Минска. Местная исполнительская вертикаль под руководством В.Сысоева молча щёлкнула каблуками и взяла под козырёк.

Районный Совет «слуг народа» во главе с Т.Марочковой, как высший орган местного управления и самоуправления на территории района, «спрятал голову в песок» и затаился. Тем самым, в грубой форме была нарушена ст. 117 Конституции РБ, согласно которой ***«Местное управление и самоуправление осуществляется гражданами через местные Советы депутатов…».*** Согласно ст.120 Конституции ***«Местные Советы депутатов… в пределах компетенции решают вопросы местного значения исходя из общегосударственных интересов и интересов населения, проживающего на соответствующей территории».*** К исключительной компетенции местных Советов депутатов согласно ст. 121 Конституции РБ относится - утверждение программ экономического и социального развития административно-территориальной единицы, на которой этот Совет функционирует.

После обрушения части здания Кричевской гимназии в городе остро встал вопрос об улучшении базы образования. В полный рост вырисовалась годами тлеющая проблема аварийного состояния центрального корпуса ЦРБ да и всей отрасли медицинского обслуживания населения. Всё это произошло, по мнению участников круглого стола, из-за игнорирования властью мнения населения и отсутствия у последнего рычагов активного и реального влияния на решения имеющихся и возникающих проблем региона. В связи с этим было высказано мнение о создании по подобию Магдебургского права общественного магистрата из числа жителей района, которые неравнодушны к решению существующих проблем Кричевщины и перспективам развития района.

*Артём СЕМЁНОВ.*

# Беларусы будуць ваяваць за незалежнасць





**Апытанне на вуліцах Мінска зняпраўджвае міф пра «памяркоўнасць» беларусаў.**

Журналісты «Нашай Нівы» правялі апытанне ў цэнтры сталіцы. «Ці гатовыя вы ваяваць за незалежнасць Беларусі», - спыталі ў жыхароў Мінска. Адказы пераважна былі станоўчыя. Вось некаторыя з іх:

***- Калі гэта спатрэбіцца, то так.***

***- Буду вельмі рады, калі мяне паклічуць ваяваць за незалежнасць Беларусі.***

***- Напэўна, так. Мы ж усе - частка краіны.***

***- За сваю краіну - абавязкова.***

***- Вядома, як і любы вайсковаабавязаны. Натуральна.***

***- Будзем спадзявацца, што не спатрэбіцца, але гэта - у свядомасці кожнага чалавека, кожнага грамадзяніна.***

***- Я жыву ў гэтай краіне, гэта мая радзіма, я вырас тут. Калісьці мае продкі ваявалі за гэтую краіну. Я мяркую, што абавязаны ваяваць за яе.***

***- Прадзеды вучылі нас ваяваць за сваю краіну, за сваю радзіму. Гэта трэба рабіць, таму што інакш няма сэнсу жыць.***

# Вместо прибыли убытки?

Сенсационную новость озвучил 15 октября на заседании президиума Совета министров Михаил Мясникович. Он выразил обеспокоенность той ситуацией, которая сложилась в настоящее время с нашим основным экспортным рынком сбыта.

*"Цены на продовольствие несколько отстают от темпов девальвации российского рубля, в результате чего наши экспортеры несут значительные убытки в долларовом исчислении"*, - заявил М. Мясникович.

Напомним, что по итогам 2013 года Беларусь экспортировала в Россию продовольствия на 4,6 млрд долларов. При этом более половины от этого экспорта - около 2,6 млрд долларов - пришлось на поставки молока, масла, сыров, творога и говядины.

Ожидалось, что благодаря санкциям, которые Россия ввела в отношении Запада, экспорт продовольствия белорусского продовольствия увеличится не менее чем на 1 млрд долларов. В валом объеме экспорт действительно растет, но вот притока валюты в страну это почти не даст. Более того, экспорт продовольствия в Россию начал вызывать у правительства тревогу. При этом премьер-министр заговорил о "значительных убытках", которые несут белорусские экспортеры. Понятно, при снижении курса российского рубля, белорусские производители оказываются в очень невыгодных ценовых условиях по отношению к российским производителям. Несмотря не девальвацию, они держат цены на прежнем уровне, что вынуждены делам и белорусские экспортеры. В долларовом эквиваленте это значит, что цены на белорусское продовольствие на российском рынке упали в 2014 году приблизительно на 10-15% в зависимости позиции товарной номенклатуры. В результате Беларусь может не только не получить ожидаемого роста экспорта продовольствия в долларовом выражении, но даже потерять значительные средства в качестве недополученной прибыли.

# Усе на суботнік!

**Загульнагарадскі суботнік прайшоў 4 кастрычніка ў Магілёве, як заўсёды, у «дабравольна-прымусовым парадку».**

**Як паведамілі ва ўпраўленні ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага гарвыканкама, «працоўны дэсант» з ліку навучэнцаў і студэнтаў, работнікаў прамысловых прадпрыемстваў і КВУП «Магілёўзелянбуд» правялі санітарную высечку створанага парку ў раёне Подніколля, пачалі закладку тратуарных дарожак і падрыхтоўку асобных участкаў да высадцы дрэў, якая запланавана на кастрычнік-лістапад. Спецыялісты сфер адукацыі і аховы здароўя працавалі на аб'ектах, якія рыхтуюцца да ўводу ў эксплуатацыю, у тым ліку на будаўніцтве дзіцячага садка ў мікрараёне Спадарожнік і радзільнага аддзялення магілёўскай лякарні №1.**



**У дзень суботніка магілёўцы зарабілі каля Br3 млрд. Частка гэтай сумы будзе накіравана на будаўніцтва прычала, які ўзводзіцца на набярэжнай ракі Днепр каля гасцініцы «Турыст». Астатнія сродкі ўлады маюць намер выдаткаваць на закладку парку ў Падніколлі.**

Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 16.10.2014 г. у 10.00.